# Як вырабляць скуркі жывёлін.

Вельмі часта ў вёсцы заб'юць зьвярка ці заколюць труса, зьдзяруць скурку і павесяць яе пад страху ці на вышку сушыцца. Сохне яна да таго, што пачынае ламацца, калі не зьядуць яе моль і жучок. У лепшым выпадку, калі такая скура захаваецца да зімы, яе скарыстаюць на каўнер ці шапку. Такая аўчынка лапаціць і зморшчваецца, воўна ляжыць няроўна і ня мае пушыстага выгляду. Ці прыемна насіць такую шапку? Зразумела, не.

А вось вырабіць скурку зьвярка, каб атрымаць з яе добрую аўчыну, зусім ня цяжка, і кожны школьнік з посьпехам можа зрабіць гэта сам.

### Як зьнімаць скурку.

Перш за ўсё трэба як належыць зьняць скурку з забітага зьвярка. Гэта трэба зрабіць зараз-жа, пакуль яшчэ зьвярок не астыў. Зьнімаць лепш за ўсё „мяшком“ ці, як кажуць, „панчохай“. Разразаць скурку трэба толькі ў вялікіх жывёлін і кратоў. Зьнімаючы скурку „панчохай“, менш небясьпекі запэцкаць яе крывёю і, апрача таго, пры гэтым спосабе захоўваецца аўчынка ад псаваньня. Зьнімаць скурку можна ззаду, для чаго робіцца разрэз ад пяткі з задняе нагі да задняга праходу, перарэзваецца простая кішка ў пачатку хваста і праз вядзецца да пяткі другой задняй нагі. Разрэз прысыпаецца бульбянай мукой ці высеўкамі, і скурка паволі заварачваецца да галавы.



Вось як трэба падвесіць зьвярка і як зрабіць надрэз.

Пры зьняцьці скуркі праз галаву, надразаюць скуру ля вачэй, нос застаецца пры скурцы, пераразаецца толькі насавы храсток, а потым скурка выварачваецца на галаву і шыю.

Зьнятую з зьвярка скурку трэба добра абчысьціць і абскрэбсьці, для гэтага лепш за ўсё надзець скурку на дошку. Вычышчаную скурку на той-жа дошцы трэба паставіць на прасушку ў прахалоднае і сухое месца, зімою ў пакой, які трэба праветрываць, а ўлетку ў цяньку, з прычыны таго, што ад сонца скурка робіцца крохкай.

### Як вырабіць скурку.

Праз некаторы час, калі скурка пачне падсыхаць, трэба распачаць выраб яе, каб атрымаць добрую аўчынку.

Перш за ўсё трэба прыгатаваць гэтак званы „квас“. Для гэтага ў поўцэбра вару ўсыпаюць грамаў 50 (1/8 фунта) аўсянай мукі і 1/2 простай лыжкі солі, мяшаюць усё і закрываюць. Праз суткі „квас“ будзе гатоў. Правяленыя скуркі апускаюць у квас на суткі, а вельмі сухія—на двое.

*(Працяг глядзі на 3-й стар. вокладкі)*

---

## ЗЬМЕСТ.



---

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, Комсамольская, 25.

№ 22 ЛІСТАПАД 1927 г.

## НАДЫХОДЗІЦЬ ЮБІЛЕЙ ЧАСОПІСІ

У сьнежні м-цы г. г. споўніцца роўна 3 гады першай піонэрскай і дзіцячай часопісі *„Беларускі Піонэр“*. Каб забясьпечыць посьпех у карысным адзначэньні гэтага аднаго з вялікіх юбілеяў нашых чытачоў, трэба зараней быць стала падрыхтаваным, трэба ведаць аб гэтым юбілеі.

Дзіцячая часопісь за тры гады зрабіла, бязумоўна, шмат карыснага. Матар'ял, які друкаваўся на яе старонках,—гэта быў той матар'ял, які вучыў дзяцей усяму карыснаму, які значна дапамагаў у працы піонэраў і школ.

З нумару ў нумар расла наша часопісь як з боку зьместу, так і з боку тэхнічнай апрацоўкі і ілюстраваньня. Расла наша часопісь разам з ростам запатрабаваньняў саміх чытачоў. Сувязь з чытачамі, іх каштоўныя заўвагі—усё гэта спрыяла таму, каб унікаць памылак і каб паляпшаць часопісь.

Часопісь імкнецца стаць чыста дзіцячай, масавай часопісьсю. Часопісь імкнецца стаць неабходнай кніжкай жыцьця і працы кожнага юнака. Часопісь імкнецца акуратна, зразумела і сваечасова адказваць на ўсе жыцьцёвыя запатрабаваньні ўсіх дзяцей рабочых і сялян. Але-ж ёсьць яшчэ шмат перашкод, якія затрымліваюць усе гэтыя імкненьні.

Наш 3-гадовы юбілей павінен гэтыя перашкоды зьнішчыць. Гэта зможа здарыцца толькі тады, калі ўсе чытачы, усе дзеці шчыра возьмуцца дапамагчы рэдакцыі ў гэтай вялікай і паважнай справе. Дапамога павінна ў першую чаргу выявіцца ў тым, што ўсе мы талкова і дакладна на сваіх сходах абмяркуем пытаньні:

1) Што дала дзецям часопісь за 3 гады.

2) Чаго мы хочам ад часопісі,—якія яшчэ матар'ялы трэба ў ёй зьмяшчаць.

3) Як нам наладзіць яшчэ цясьнейшую сувязь з рэдакцыяй (пасылка допісаў, лістоў аб самой часопісі і г. д.).

4) Як нам пашырыць сярод усіх дзяцей сваю часопісь.

Вось тыя галоўныя пытаньні, якія паўстаюць перад усімі дзецьмі з надыходам юбілею часопісі.

*Юбілейным падарункам ад усіх чытачоў будзе:* сталае вырашэньне ўсіх гэтых пытаньняў.

Няма да 3-гадовага юбілею ніводнага зьвяна, ніводнае школы, ніводнай дзіцячай бібліотэкі, *якія ня выпісваюць часопісі „Беларускі Піонэр“*.

Гэтага ад нас вымагае цяпер выданьне часопісі. Павялічэньне тыражу палепшыць і пачасьціць выданьне. Пры малым тыражу не хапае грошай на палепшаньне часопісі, а гэта значыць, што часопісь ня зможа цалкам задавальняць патрэбы чытачоў.

Удзел усіх дзяцей у юбілеі забясьпечыць посьпех яго.

# Бунт падземных людзей

*Апавяданьне* **М. Былога** *Малюнкі* **П. Гуткоўскага**

## I. Суд мандарына

З паўночнага берагу Ян-Цзы [1]) цячэ невялічкая рачулка, настолькі малая, што ў сухую пару кожны хлопчык праз яе пераскочыць. Але-ж затое пасьля дажджу яна павялічваецца ў некалькі разоў, раптоўна ўздымаецца, раве і нясецца так, што зносіць усё на сваёй дарозе.

У працягу гадоў яна працерабіла сабе ў лёэсе [2]) рэчышча, мэтраў 150 глыбіні, і стварыла цясьніну (русло) са стромкімі, як муры, берагамі. Цясьніна вілася, нібы зьмяя, то пашыраючыся ў досыць шырокую даліну, то сьціскаючыся ў шчыліну. А з бакоў падыходзілі новыя цясьніны, створаныя меншымі раўчакамі. Усё гэта складала цэлую сетку калідораў, блытаных, цёмных, нябачных зьверху. Толькі ў некаторых мясцох можна было знайсьці прыступачкі, каб выбівацца наверх, а рэшта была зусім адрэзана ад усяго сьвету.

Ды ці патрэбны каму гэтыя равы? Народ жыве там, наверсе. Там цягнуцца бавоўняныя і чайныя плянтацыі, відаць шэрагі тутавых дрэў [3]), раскіданы жоўтыя гліняныя пасёлкі, нават сустракаюцца асобныя, добрыя драўляныя будынкі, нібы фальваркі. На палёх працуе шмат народу.

Але-ж і ў цясьніне таксама відаць сьляды чалавека. Перш за ўсё ўздоўж рачулкі ідзе шлях і, відаць, ня мала народу праходзіць па ім. Потым, дзе-ні-дзе растуць пладовыя дрэвы—персікавыя, абрыкосавыя. Вунь і гаспадарчая жывёла ходзіць: парасяты, куры, качкі, дзьве авечкі і нават адно цялё. Вось нясецца чарада голых, жоўтых дзяцей. А вунь і селянін апрацоўвае сваё „поле“: на прыступачцы ў два крокі шырынёю і чатыры даўжынёю ён даглядае свой гарох і боб.

А там далей капошацца і іншыя жыхары. Усе яны ў кофтах і штанох, завязаных унізе. На нагах саламяныя лапці, а на галаве—хусткі, вакол якіх абкручаны косы. Тутака і мужчыны і жанчыны, і новаму чалавеку не разабрацца, хто тут які.

Два чалавекі малоцяць нешта кіямі. Рэха нясецца ў цясьніну і варочаецца назад. Танюсенькі лёэсавы пыл уецца, як дым. Прыгледзеўшыся, можна заўважыць, што малоцяць забітую сьвіньню. Кажуць, што сьвініна ад гэтага робіцца далікатнай і смачнай. Побач баба мые бялізну. Адным словам, перад намі малюнак штодзеннага вясковага жыцьця. Толькі вёскі ніякай ня відаць.

На некалькі мэтраў ад зямлі ў сьцяне чарнеюцца дзіркі, нібы гнёзды груноў (земляныя ластаўкі). Вось з аднэй такой дзіркі выкацілася дзіцянё, вось у другую дзірку ўлез чалавек, вось у трэцюю пабеглі парасяты. Відаць ужо, што туды вядуць вузенькія сходні, высечаныя ў сьцяне. Значыцца, гэта і ёсьць вёска, адна з тых вёсак, у якіх жыве не адзін мільён кітайскага народу.

Раптоўна раздаўся крык:—Мань-Чжу! Мань-Чжу! [1]).

Паднялася мятусіна, усе кінуліся заганяць жывёлу ў свае хаты-норы. Абодвы кітайцы борзьдзенька павалаклі за-

[1]) Галоўная рака Кітаю, каля 6.000 кілёмэтраў даўжыні. Поўная назва яе—Ян-Цзы-Цзян, што азначае „Блакітная“.

[2]) Лёэс—вельмі мяккая, тонкая глеба жаўтаватага колеру.

[3]) Лісьцем гэтых дрэў кормяцца чарвякі (вусені), што даюць шоўк.

[1]) Манчжуры, або мукдэнцы (ад галоўнага гораду Мукдэну),—паўночны народ Кітаю, які вязе вайну супроць рэволюцыйнага паўднёвага Кітаю.

бітую сьвіньню. Але ўцягнуць яе па вузенькіх сходнях было вельмі марудна. З завароту паказалася чалавек дваццаць салдат і дзесяткі сатры мулаў з клункамі.

Яны адразу заўважылі, што там валакуць добрую рэч, і крыкнулі: „стой!“ Кітайцы ня спыніліся.

— Стойце, чэрці!—ізноў крыкнулі салдаты, і па цясьніне пракаціўся грукат стрэлу. Куля ўдарылася ў сьцяну над галовамі кітайцаў; пасыпалася зямля. Небаракі пакінулі сьвіньню і схаваліся ў сваёй нары, а сьвіньня паляцела ўніз... Мігам апусьцела цясьніна. Салдаты з вясёлым сьмехам аўладалі здабычай.

— Давайце палуднаваць! Есьці хочацца!—пачуліся галасы.

Зараз-жа спыніліся, паставілі ў гурт сваіх мулаў, паклалі сьвіньню на беразе крыніцы. Але тут паўстала пытаньне, дзе дастаць дрэва для вогнішча? Пачалі радзіцца, азірацца.

— Зараз будзе!—крыкнуў адзін з салдат і пабег да бліжэйшай „хаты“. Спалохаліся людзі, запішчалі ў сваіх норах...

Праз хвіліну ўніз паляцелі нейкія дзьверы, кавалкі ўбогай мэблі. А праз поўгадзіны войска ўжо ласавалася смачнай сьвяжынкай.

Гаспадары-ж баязьліва выглядалі з сваіх дзірак і глыталі сьліну.

Абед ужо канчаўся, калі ў цясьніне пачуліся нейкія мэлёдычныя гудкі, усё бліжэй, бліжэй.

Вось ужо можна назваць, што гэта зьвіняць званкі. Яшчэ хвіліна—і зьявілася нейкая працэсія. Наперадзе ішоў чалавек у вялічэзным капялюшы і з кіем у руцэ. За ім чатыры чалавекі несьлі паланкін [1]), нібы будку, з сіняй шоўкавай павецьцю і жоўтымі фіранкамі, на якіх былі намалёваны драконы [2]).

У паланкіне, раскінуўшыся, сядзеў мандарын [3]) у шырокім, сінім шоўкавым халаце. Круглы, голы твар, увесь у зморшчках, нагадваў старую бабу, ня глёдзячы нават на вузенькую сівую казьліную бародку. На галаве была маленькая аксамітная шапачка, з-пад якой спускалася каса.

Па баках ішла ўзброеная ахова, а ззаду некалькі мулаў з багажом і слугі. Убачыўшы гэту працэсію, салдаты паўскаквалі на ногі, пачалі адпіхваць у бок сваіх мулаў, каб даць дарогу важнаму пану. У гэты момант выбег з нары кітаец з жонкай і двума дзецьмі,—і ўсе яны моўчкі паваліліся на дарогу перад мандарынамі. Паланкін спыніўся.

— Што патрэбна гэтым людзям?—вяла запытаўся мандарын.

— Вялікі пан!—пачаў кітаец, стоячы на каленях,—абарані няшчаснага беднага чалавека. Гэтыя салдаты забралі маю апошнюю спажыву—сьвіньню. Цяперака сям'я мая павінна будзе памерці з голаду. Вялікі пан! Хай бароніць цябе неба! Ня дай загінуць бязьвінным людзям.



— Вялікі пан!—пачаў кітаец, стоячы на каленях...

Салдаты зірнулі адзін на аднаго і сьціснулі кулакі. Здавалася, што вось-вось яны кінуцца на кітайца. Тымчасам павылазілі другія кітайцы і паступова згрудзіліся на дарозе.

Мандарын зірнуў на салдат.

— Вы гэта зрабілі?— запытаўся ён.

Тыя маўчалі.

— Нядобра вы робіце! — з дакорам сказаў мандарын;—сорамна харобраму войску крыўдзіць мірных людзей. Перад вамі стаіць больш важная задача: замірэньне ўсяго Кітаю, якому пагражаюць рэволюцыянэры. А вы, дзеці мае,— зьвярнуўся ён да народу, — пацярпеце крыху. Я шчыра спачуваю вам, але хто

[1]) Насілкі.

[2]) Крылатыя зьмеі—галоўны кітайскі знак.

[3]) Кітайскі саноўнік, начальнік.

з нас цяпер ня церпіць? Вы-ж ведаеце, што паўсталі паўднёвыя бандыты, што яны пагражаюць разбурыць усю нашу бацькаўшчыну. Гэтыя салдаты бароняць і вас і за вас аддаюць сваё жыцьцё. Яны церпяць, пацярпеце і вы. Памятайце, што казалі нашыя старадаўныя мудрацы: лепш страціць пяць пальцаў на руцэ, чымся цярплівасьць і спакой духу. Калі адзін раз вы накармілі салдат, дык затое набылі спакой душы.

— О, вялікі пан, хай неба прадоўжыць твае дні! —застагнаў кітаец:—гэта-ж не адзін раз. Яны заўсёды рабуюць нас, ці трэба ці ня трэба. А мы-ж нічога ня маем, нават кавалачка зямлі.

— А тых, што наверсе, тых, якія багацей, яны не чапаюць!—крыкнуў нехта з натоўпу.

— Дзеці мае!—сказаў мандарын ужо суровым голасам:—мудрэйшыя з мудрых пастаўлены, каб кіраваць нябеснай краінай. Ня вам, дзеці мае, судзіць аб тым, што робіцца наогул.

—Але-ж мы гэта адчуваем на сваіх карках!—ізноў крынуў нехта.

— Я ўжо бачу гэта,—хмура сказаў мандарын.—Дык вось, людзі, што я вам скажу: я бачу, што з вамі ўжо нельга гаварыць падобраму. Мудрасьць дзядоў нашых пакінула вас. Відаць, новыя, шкадлівыя думкі, што прышлі з Захаду, дасягнулі і да вас. У такім разе і мы з вамі будзем гаварыць так, як гаворым са здраднікамі, што адракліся ад слаўнай гісторыі кітайскага народу.

Кітаец з сям'ёй усё яшчэ поўзаў у пылу.

— О, міласэрдны пан!—плакаўся ён,—выбачай цёмнаму чалавеку. Ня ведаю я ніякіх гісторый. Ведаю толькі, што мяне скрыўдзілі. А спадзяваўся толькі на цябе...

Але сярод усіх іншых людзей чуўся незадаволены гоман, і сярод гэтага гоману пачуўся зычны голас.

— Уставай, Чынь-Фу! Усё роўна нічога ня будзе. Не ад іх мы дачакаемся справядлівасьці!

— Што я чую, о, неба?! —закрычаў мандарын:—25 бамбукоў яму!

Не пасьпелі мандарынавы слугі нават паварушыцца, як салдаты-добраахвотнікі ўжо схапілі аднаго дзяцюка, гадоў 19, і павалілі на зямлю, і на вачох мудрага



*і... адлічылі 25 добрых удараў па пятах...*

Тады падышоў да мандарына старэйшы з салдат і сказаў:

— Дазвольце зьвярнуць вашу ўвагу, вялікі пан. Гэтыя разбойнікі ўжо сапсаваны. Яны ўсе імкнуцца да рэволюцыянэраў і толькі чакаюць моманту, каб далучыцца да іх.

мандарына адлічылі 25 добрых удараў па пятах.

Увесь народ мігам зьнік. Застаўся адзін Шы-Ку-Ан, сын Шы-Ку-Цзян. Сьцяўшы зубы, ён вытрымаў 25 бамбукоў, і ніводнага гуку ня вырвалася з яго грудзей.

А падарожнікі паехалі далей.

## II. Кітайская помста

Бай-Цзу быў самы багаты памешчык ва ўсёй ваколіцы. Ён меў цэлых 3 дзесяціны зямлі. А калі прыняць пад увагу, што ўся зямля была засаджана выключна чайнымі кустамі, тады выйдзе ўжо значнае прадпрыемства. Але і гэга ня ўсё: ён меў яшчэ і сваю ўласную чайную фабрыку. Праўда, фабрыка гэта была ні больш, ні менш як звычайная пуня, але і гэта ня кожны гаспадар мог мець.

Роўнымі шэрагамі цягнуліся чайныя кусты, вышынёю ў 1—1$^{1}/_{2}$ мэтры, падрэзаныя, падчышчаныя, падвязаныя. Аніводнай непатрэбнай зёлкі не расло пад імі: усё было начыста выпалата.

Надыходзіў час першага збору чайнага лісьця. Гэты збор дае найлепшы гатунак; далейшыя 2—3 зборы даюць усё горшую і горшую гарбату. І галоўнай думкай Бай-Цзы была: каб толькі не перашкодзіў дождж. Нават ноччу ўставаў ён, выходзіў на двор і трывожна пазіраў на неба: ці не пагражаюць хмары.

У гэты дзень цясьніна апусьцела. Усе жыхары, ад мала да вяліка, працавалі на плянтацыі Бай-Цзы. Толькі Шы-Ку-Ан павінен быў ляжаць дома, бо яму балелі пяты. Але Бай-Цзы быў нават рады гэтаму, бо ня любіў таго Шы-Ку-Ана, які заўсёды псаваў музыку ды баламуціў народ. Праз яго і стары Шы-Ку-Цзян, бацька Шы-Ку-Ана, цярпеў; Бай-Цзы заўсёды чапляўся за яго і стараўся шкодзіць. Сотні людзей з бамбуковымі кошыкамі рассыпаліся на плянтацыі. Пасьля сябе яны пакідалі голае гальлё, а лісьцё нясупыннай чарадой лілося на „фабрыку“ і сыпалася ў кучу, а там ужо чакалі „машыны“: дзесятак здаровых „кулі“ (кітайскія рабочыя), брудных, голых. Яны пачалі таптаць лісьцё (як у нас, калі месяць гліну). Марудная і цяжкая праца! Доўга прышлося паскакаць, пакуль лісьцё пусьціла сок. Пот з гразёй струменямі льлецца па целе і зьмешваецца з лісьцём. Часам хто харкане, ці смаркане... А тут яшчэ лезуць куры, качкі, сьвіньні. З мокрымі нагамі выскачыць кулі, адгоніць іх, а потым з наліпшым да ног „дабром“ назад...

Сок грызе ногі, разьядае бруд, болькі, струпы...

Ня лёгкая справа зрабіць для нас гарбату!..

Замешанае лісьцё пакідаюць на некалькі дзён у цёмным месцы, каб яно „падышло“. Тады яно набывае той прыемны пах, які нам так падабаецца. А потым трэба яго высушыць на сонцы.

Гэты момант самы небясьпечны. Калі пойдзе дождж—гаспадар прапаў.

Большасьць рабочых, галоўным чынам жанчыны і дзеці, пасьля збору лісьця разышліся па хатах. Засталося столькі, колькі было патрэбна для далейшай працы.

Вынесьлі лісьцё на сонца, сушаць, варушаць яго. Бай-Цзы дрыжыць і ўвесь час глядзіць на неба. І вось паказаліся хмаркі. Трэба ратаваць ад іх. Тады Бай-Цзы прыносіць поўны кошык фэйервэркаў, траскучых ракет. Раздае кулі па нізцы. Запальваюць. Пачынаецца траскатня. Людзі махаюць рукамі, крычаць:

— О, сонца, не хавай ад нас твару свайго! І ты, дух, што кіруеш хмарамі, пачакай, адыйдзі, пашкадуй нас!

Хмаркі пакруціліся і прайшлі міма. Дапамагло!

Далей трэба яшчэ раз скакаць па сухім лісьцю, потым прасеіць, вывеяць і нарэшце падзяліць на гатункі. Але фабрыка Бай-Цзы гэтай працы ня робіць. Даканчвае апрацоўку другая фабрыка, якая знаходзіцца на кілёмэтраў 30 адсюль, і туды Бай-Цзы накіроўвае свой тавар.

Найтаньнейшы спосаб для гэтага—людзкая сіла. За 30 капеек, на нашы грошы, на сваіх харчох, кулі запрэ на сваім карку 3-пудовы клумак за 30 кілёмэтраў ды яшчэ падзякуе.

---

# Таварышы чытачы!

**Спаткаць трохгадовы юбілей сваё часопісі мы павінны ПАШЫРЭНЬНЕМ як ліку чытачоў, так і ліку ПАДПІШЧЫКАЎ.**

**Гэта будзе наш найлепшы падарунак юбіляру.**

Назаўтра 20 чалавек адправіліся ў дарогу і ў тым ліку стары Шы-Ку-Цзян. А сын яго ізноў павінен быў застацца дома.

Праз 2 дні вярнуліся 19 чалавек. Шы-Ку-Цзяна з імі ня было.

— Цяжкая была дарога,—расказвалі таварышы;—перад намі прайшоў дожджык, дарога зрабілася ліпучая, сьлізкая. Увесь час мы коўзаліся, падалі, змарыліся да сьмерці. Асабліва цяжка было старому Шы-Ку-Цзяну. І вось у адным месцы, на беразе ракі, ён паляцеў уніз. Клунак выцяўся аб камень, рассыпаўся,—і ўсё паплыло. Бай-Цзы вылез з паланкіна і кінуўся на старога з кулакамі. Потым пацягнуў яго ў суд. Мусіць, прысудзяць пакрыць усю страту, а гэта складае страшэнную суму.

Прыціхла цясьніна, слухаючы гэта апавяданьне. Здавалася, што нават лёэсавыя стэпы спачуваюць няшчаснаму кулі...

А яшчэ праз дзень зьявіліся два чыноўнікі разам з Шы-Ку-Цзянам. Яны апісалі і забралі ўсю маемасьць: дзьве качкі, тры курыцы, чацьвёра куранят, сьвіньню і трое парасят, чыгун, сякеру і новую кофту. Больш нічога каштоўнага ня было.

— А рэшта доўгу,—абвясьцілі чыноўнікі,—застаецца за Шы-Ку-Цзянам і яго сям'ёй. Ён можа плаціць часткамі альбо адпрацоўваць. А калі не, дык яго будуць кожны тыдзень біць перад людзьмі, пакуль хто-небудзь не пашкадуе яго і не заплаціць.

. . . . . . . .

Усе ўжо заснулі. Нават сын Шы-Ку-Цзяна зваліўся і захроп, а стары ўсё думаў і думаў... Што яму цяперака застаецца рабіць? Ён-жа цяпер раб на ўсё жыцьцё. Раб гэтага праклятага Бай-Цзы. На яго ён павінен працаваць увесь свой век. Ці-ж можна гэта вытрымаць?

Не! Ён павінен адпомсьціць. Усё роўна яму цяперака ня жыцьцё на сьвеце. Хай-жа і Бай-Цзы ведае!

Асьцярожна ўстаў Шы-Ку-Цзян, захапіў нож, спусьціўся ўніз, потым узьлез наверх. Неба было яснае, ціхае, але недзе нешта грукала, нібы гарматы. Вось і плянтацыя Бай-Цзы, вось і хата яго. Нават вакно расчынена.

Стары добра ведаў тутака кожны крок. Ён абмінуў і сабак і вартаўнікоў. Успоўз на ганак, сеў на парозе, распрануў кофту і... спароў сабе нажом жывот... [1]).

*Працяг будзе.*

[1]) Такая „помста" ў Кітаі—звычайнае зьявішча.



# ЮРКА АБАРОНЕЦ

I

Маленькі Юрка сядзеў на парозе сваёй хаты, і ўсё яго малое дзіцячае цела трэслася ад горкага плачу. Сьлёзы цяклі па яго шчоках, астаўляючы на іх брудныя палосы. Вочы яго пачырванелі і напухлі. А ён усё сядзеў і плакаў.

Юрка—маленькі хлопчык. Яму толькі восем гадоў. Гэтаю восеньню ён пойдзе ў школу. Жыве ён у маленькай хатцы на самым канцы вёскі разам са сваёю маткаю. Бацька яго памёр ужо даўно, як яму было два гады. Маці заўсёды заня-та; яна цяпер у хаце мые бялізну, і няма каму Юрку расказаць пра сваё гора.

Было ў Юркі адно шчасьце, адна радасьць. Яшчэ тры гады назад прынёс ён з лесу і пасадзіў на двары каля хаткі маленькую дзікую яблынку. Стары дзед Піліп прышчапіў яго яблынку, і ў гэтым годзе яна цьвіла першы раз. Юрка глядзеў і ня мог наглядзецца на некалькі бела-ружовых душыстых кветак. Ён наглядаў, як прылятаталі пчолы, гудзелі ды пілі салодкі мёд. Яблынка павінна была прынесьці тры яблычкі.

— Растуць мае яблычкі,—казаў ён.

І ён пачаў чакаць восені, калі з яблыны можна будзе зьняць тры жоўтых, мяккіх, ужо пасьпеўшых яблычкі.

Але тут здарылася бяда. Адзін раз, падбегшы да яблынкі, Юрка аж самлеў ад страху: няўжо-ж няма яблычак?.. Ён пачаў шукаць іх пад лісточкамі, абглядаць яблыну з усіх бакоў—няма! І горкія сьлёзы паліліся з яго вачэй.

— Ха-ха-ха-ха!—пачуўся раптам рогат з вуліцы, які прымусіў Юрку хутка аглянуцца. На вуліцы стаяў хлопец Даніла Жытніч і глядзеў на яго.

— Баба ты, а ня хлопец,—сказаў ён.— Плача аб якіх-та трох яблыках. Ды каб яблыкі былі, а то... На табе, бяры іх!— і ён працягнуў тры пакусаных і запэцканых яблычкі. Убачыўшы, што сталася з яго яблыкамі, якія ён спадзяваўся зьняць сьпелымі ўвосень, Юрка яшчэ горш заплакаў.



*Але ён ужо даўно перастаў іграць і глядзіць наўкола.*

— А ты раўці ўздумаў! На табе твае яблыкі,—крыкнуў Даніла. І, кінуўшы Юрку ў твар яго яблычкі, ён зашагаў па вуліцы.

Даніла—вялікі хлопец. Яму дзесяць гадоў. Нічога ня можа зрабіць яму Юрка, і ён сеў і горка заплакаў.

— Чаго ты, дзіцятка?—пачуў ён над сабою ласкавы голас.

Юрка падняў галаў. Каля яго стаяў дзед Пiліп, той самы, што прышчапіў яго яблынку.

— Няма... няма маіх яблычкаў!.. прагаварыў Юрка.

— Яблычкаў няма? Нічога, на другі год зноў будуць; ужо болей іх вырасьце.

— Юрка перастае плакаць і выцірае твар рукавом.

— А я табе хацеў даць яблычка!—гаворыць ён.

— Мне, Юрка? Ну, нічога. На другі год дасі. А цяпер ня плач толькі. Хочаш, пойдзем мы да ракі; я табе дудачку-жалейку зраблю: граць на ёй будзеш.

Юрка ўсьміхаецца.

— Ты мне, дзеду, дзьве дудачкі выраж!—просіць ён.

— Дзьве, дык дзьве!.. Дык пойдзем, Юрка? А?

І праз хвіліну стары Піліп выходзіць з двара, трымаючы за руку маленькага Юрку.

II

Юрка сядзіць на беразе ракі з дудкай у руках. Але ён ужо даўно перастаў граць і глядзіць навокал. Кругом так добра, так хораша.

Вечарэе. Сонца ўжо ня бачна за вялізнымі ясакарамі, якія стаяць на беразе ракі. Іх карэньні выступаюць з-пад крутога берагу, пераламляюцца і перакручваюцца паміж сабою і апускаюцца ў ваду чыстай ракі. Крывыя вербы схіліліся над вадой. Няма нават маленькага ветрыку, і паверхня вады роўная, як шкло. Над ракой кружацца камары, закранаючы ваду сваімі доўгімі лапкамі... Вада блішчыць і сьвеціцца ў праменьнях сонца... Чутно гудзеньне майскіх жукоў, якія пачынаюць лятаць у паветры. Зрэдку плясьне рыба, хапаючы мошку ці жука, і па рацэ пойдуць доўгія вадзяныя кругі... З густога лісьця дрэў чутны галасы птушак...

Юрка падняў голаў і слухае іх песьні; увесь дзень ён можа прасядзець і слухаць—так ён іх любіць. Любіць ён і адшукваць іх гнёзды; але ён не раскідае іх, ня б'е іх яечак, а толькі наглядае за імі. Цікава-ж наглядаць, як птушка будуе гняздо, носіць мох, салому, як кладзе яечкі, як у гнязьдзе зьяўляюцца чуць пакрытыя пухам птушачкі, як бацькі ловяць і прыносяць ім розных мошак, чарвякоў, жучкоў, як у птушачак адрастаюць крыльлі і яны пачынаюць лятаць. Сёньня Юрка знайшоў два гнязды. Адно яшчэ ня было кончана; у другім ужо сядзелі маленькія птушачкі.

Даніла таксама любіць знаходзіць гнёзды, але ён раскідае іх, выкідае птушанят, б'е яечкі, а сьвежыя тут-жа выпівае. Аднак, ён часта ня можа знайсьці гняздо і сочыць за Юркам, каб паглядзець, якое дзе гняздо той знойдзе.

Учора Юрка знайшоў гняздо шпака, дзе было два яечкі, ён хоча паглядзець яго і сёньня. Юрка ўстае, падыходзіць да дрэва, хутка ўзлазіць на яго і заглядвае ў дуплё. Там ляжаць ужо тры прыгожанькіх блакітных яечкі. Шпак непакойна лётае каля дрэва, і Юрка сьпяшаецца злазіць, каб супакоіць птушку. Ён аглядаецца ва ўсе бакі, баючыся, каб ніхто ня ўгледзеў яго, і раптам бачыць Данілу, які паглядае на яго з-за карча ясакара.

„Зноў Даніла разбурыць гняздо,—думае агарчоны Юрка:—заўсёды ён сачыць за мною“.

Даніла вылазіць з-за карча.

— Дзякуй табе, Юрка,—сьмяецца ён:—паказаў ты мне гнязьдзечка!

І ён лезе на дрэва.

— Данілка! не чапай гнязда!—просіць Юрка.—Што табе зрабілі бедныя птушкі?..

Але Даніла ня слухае яго, скора кідае на зямлю шкарлупкі ўжо разьбітых яечак. Малы Юрка плача ды адыходзіць; яму шкода бедных птушак.

III

Дзьме невялічкі вецер. Маленькія хвалі ракі ўзьбягаюць на адлогі бераг і бягуць зноў назад. Сонца адбіваецца ў вадзе ракі. Малы Юрка ўжо тут. Закасаўшы штонікі, ён бродзіць па калені ў вадзе. Кашуля яго запырскана вадою, ён увесь мокры, але вясёлы; моцны сьмех

яго разносіцца каля ракі. Каля берагу плаваюць і грэюцца на сонцы маленькія рыбкі: пяскарыкі і плотачкі. Яны пужаюцца Юркавай цені і бягуць ад яе ва ўсе бакі. Юрка весела сьмяецца. Ён працягвае сваю руку, і рыбкі разьбягаюцца ад яе цені.

Даніла таксама каля ракі. Але забава ў яго зусім другая. Ён выплёсквае рыбак на бераг і глядзіць, як яны б'юцца і скачуць па пяску. Калі Юрка ўбачыў, што робіць Даніла, яго вясёласьць адразу зьнікла, і ён падбягае да яго.

— Ня муч бедных рыбак!—просіць ён: —кінь іх зноў у раку!

Аднак Даніла ня слухае Юрку і са сьмехам працягвае сваю забаву. Толькі калі Юрка, плачучы, што ніяк ня можа дапамагчы бедным маленькім рыбкам, адыходзіць, ён кідае іх у раку. Словы Юркі ня раз прымушалі задумляцца Данілу; ён ня быў злым хлопцам, і не хацеў толькі, каб ведалі, што ён слухае такога маленькага хлопчыка, Юрку.

І Даніла ўжо на зло самому сабе раскідаў гнёзды, лупцаваў вясковых катоў ды сабак. Але ўсё-ж такі здарылася так, што ён паслухаў Юрку.

IV

Аднойчы раніцою Юрка прышоў да ракі і хадзіў паміж вялізнымі ясакарамі і вольхамі. Вярхі дрэваў ціха шумелі, але на ніжэйшых галінах ня дрыжэў ніводзін лісток. Звонкія песьні птушак нясьліся адусюль; недзе крычала зязюля. Кожнае дрэва, кожны кусьцік быў знаёмы Юрку, і ў той-жа час усё было так нова. Ён ціха ішоў паміж дрэвамі, і раптам убачыў Данілу, які браў з гнязда птушанят. У адзін момант Юрка падбег да яго.

— Даніла, пакладзі іх зноў у гняздо! Няўжо-ж табе ня шкода птушанят? Што-б было, калі-б цябе адабралі ад маткі?

Даніла задумляецца. Ён ясна прадстаўляе гора мацеры, яе сьлёзы, калі-б яго адабралі ад яе, адчувае, як дрэнна было-б яму быць адарваным ад сям'і. І яго рука кладзе птушанят у іх гняздо. Потым ён злазіць і, ня гледзячы на Юрку, ідзе прэч. Юрка зьдзіўлена глядзіць яму ўсьлед.



...пакладзі іх зноў у гняздо!

Праз некалькі дзён, сустрэўшы Юрку і аглядзеўшыся, каб ніхто іх ня бачыў, Даніла сказаў яму:

— Дзякуй табе, Юрка! Гэта ты навучыў мяне ня мучыць жывёлу. Я ўжо ніколі ня буду раскідаць гнёзды, біць катоў, мучыць рыбак.

І, памаўчаўшы, ён дадаў:

— Дрэнна, што я сарваў твае яблычкі...

Юрка быў такі шчасьлівы. Вось чаго ён дабіўся: ужо і Даніла будзе рабіць як ён. І ён сказаў:

— Вось гэта і добра, Данілка! Ня трэба мучыць жывёлаў. І іх шкода... А на яблынцы будуць зноў яблычкі, тады я і табе дам паспытаць...

— Ты, Юрка, такі добры! Ты абаронец усіх жывёлаў!—адказаў Даніла.

М. Белякоўскі.

# Байкі

## Бацька і сын

Пачуў раз нейк шаноўны тата,
Што сын кагось з апошніх лае слоў,
І тату прыліла адразу к твару кроў:
Ён да дзяцей заўсёды строгі надта,
А тут... Ну, як не пакараць прахвоста?
Зрабіць-жа гэта надта проста:
Злавіў ды сырамятным паскам
Давай, па чым папала, ляскаць:
— Ах, ты, паршывае шчаня!
Ах, трасца тваёй мацеры!
Дзе гэта ты так скора пераняў?
І хто навучыў цябе такія пацеры?
Вось гэта-ж тут вазьмі
Дый засячы цабе, паскуду.
А той, заліўшыся сьлязьмі,
Прасіўся: „Татачка, ня буду!
Што гэта брыдка—я ня ведаў,
А за табой плявузгаў сьледам,
Бо словы ад цябе я чуў“...
І горш яшчэ зайшоўся ён з плачу.
Ох, таты нашы, таты!
У сто разоў вы болей вінаваты
У тым, часамі, за дзяцей,
За што, караючы, б‘яце.

## Нянька

Бывае цяжка й роднай матцы
Аб тым, часамі, дагадацца,
Чаго дзіцятка плача,—
А што-ж казаць, калі няўдача
Чужых, бывае, нянчыць дзетак?
Было раз недзе гэтак:
На хутары паміж густога бору
Жыла ўдава,
Ды пры сабе чацьвёра
Дзяцей кабета тая мела.
Вось раз ёй нек жывот ці галава
Ды надта-ж моцна забалела.
Ну, як тут гаспадарку дагледзець?
Дзе гэтых дзетак дзець—
Міхаську, Сьцёпку, Зоську, Маньку?
Але згадзіўся быць мядзьведзь
За гаспадара і за няньку.
Вось і пачаў-жа гаспадарыць:
Сьвіней ня корміць ён, і есьці ён ня варыць,
Ня смажыць і ня скварыць,
Бо аплятае ўсё сырое,
Ды на закуску мёду вулей.
А дзецям ён ката сьпявае—люлі, люлі!
І з дзетак ужо трое
Пад гэту песеньку заснулі.
Чацьвертае-ж, накрытае рагожай,
Шавеліцца, ніяк заснуць ня можа
І просіць: „Мама, гам!“
Мядзьведзь мармыча: „Ціха,—цацу дам!
Маўчы, ато ты ўсіх пабудзіш“.
І забаўляць дзяўчо Міхалка стаў:
То паказыча кончыкам хваста,
То паднясе пад носік вуха ёй,
Але дзіця (сьвятая прастата)
Ніяк яго ня слухае.
„Дык гэта ты пішчаць яшчэ мне будзеш?
Ці бачыш, які проціў!



# Крапівы

Але я ведаю, што мне рабіць з такою—
Вось зараз супакою",—
І лапаю мядзьведзь закрыў дзіцяці роцік.
Дзіцятка ручкамі разоў са два махнула
І тут навек заснула.
Быў час—
Так няньчылі калісьці й нас.
Цяпер таго я не скажу,
А толькі пальцам пакажу
Туды вунь, за мяжу.



## Стары і малады

Ня так даўно ў гаспадара
Жарэбчык быў і конь стары.
Яны задраліся нек раз,
І вось з тае пары
Пайшлі між коняй нелады.
Аднойчы ў плузе на ральлі
Жывёлы спрэчку завялі.
Гарачы, порсткі, малады
Тут не на жарт
Напаў на сталага каня:
— Куды ты, сьцерва, варт?
Калі паўзеш, дык парахня
Вунь пасыпае сьцежку ўсьлед,
І толькі ты паскудзіш сьвет;
Глядзіць у землю морда кісла
І губа ніжняя адвісла;
На чорта ўжо цябе й трымаць!
Даўно пара да каналупа,
Бо сорам весьці на кірмаш...
Ад слоў такіх стары стаў слупам:
— Дык што?.. Дык як?..
Ах, ты, сапляк!
Ах, ты, шчаня!
Так бэсьціць сталага каня?
Ты не глядзі, што я стары
І што ўжо сыплецца з мяне
На капыты,
Але-ж да гэтай вось пары
Ні разу ў баране



Ня стаў, як ты.
Разумны ты, ды малайчына
Да тэй пары, пакуль ляйчына
Не пападзе табе пад хвост;
Ну, а тады—панёс,
Ці з плугам будзеш ты, ці з возам,—
І дзе той дзенецца ўвесь розум?
Няхай, патвойму, я слабы,
А хто-ж цябе вось прыдабыў?
Хто дастаўляў табе авёс
І сена, на якім ты рос?
Ты здольны толькі да яды,
А ў працы гэтых маладых
Я так прыцісну, што аж сок...
— Пакуль з нас сок, дык з вас пясок!
Вось так за словам слова.
Нарэшце, мала ім і звадкі—
Ужо намерваюць азадкі.
І... вышла-б дзела ў іх канёва,
Каб не араты йшоў за плугам.
— Но-но! пайшлі, ато вось пугі!—
Пачаў ён іх мірыць,—
Чаго разьеліся, зьвяры?
Пакіньце вылічаць свае заслугі.
Карысны вы абодва, дабрадзеі:
Ты тым, што ўжо зрабіў, стары,
А на цябе, блазьнюк, мае надзеі.

# НАША ЖЫЦЬЦЕ

## Атрад, як ён ёсьць.

*(Нова-Барысаў, 52 атрад).*

У нашым атрадзе ў пераважнасьці дзеці рабочых завода імя „Розы Люксэмбург". Атрад мы падзялілі на 2 зьвяны: адно зьвяно аб'ядная сабой больш разьвітых піонэраў, другое—менш разьвітых. Да слабейшага зьвяна прымацоўваецца адзін больш актыўны піонэр, які дапамагае ў працы павадыру зьвяна.

**Па 10 кап.—на заём індустрыялізацыі!**

Самая цесная сувязь існуе ў нас з грамадзкай працай усяго заводу. Шмат хто з нашых піонэраў дапамагае заўкому выдаваць насьценную газэту рабочых і служачых заводу, шмат хто дапамагае ў працы клюбу і г. д.

Асаблівую ўвагу зьвяртае на сябе такі факт.

Неяк на адным зборы атраду старэйшым піонэрам т. Марголіным быў зроблены маленькі даклад аб заёме дзяржаве. Т. Марголін расказаў, як спачуваюча адгукаюцца на заём рабочыя і служачыя нашага саюзу і якая карысьць ад гэтага будзе для разьвіцьця нашай прамысловасьці. І тут-жа пасьля дакладу ўсе дружна падхапляюць прапанову *падпісацца колектыўна на 25 руб.*

Але ня толькі вынесьлі прапанову, падумалі і аб тым, як гэта падпісацца. Дакладна абмеркавалі ўсе магчымасьці. Урэшце, пагадзіліся на тым, каб у працягу 7 мес. кожны піонэр уносіў па 10 к. Гэтыя 10 кап. з'эканоміць на сваіх школьных ці іншых выдатках. Але шмат хто, магчыма, ня зможа цалкам унесьці азначаную суму грошай. Тады парашылі ўсім колектывам папрацаваць на заводзе, наладзіць суботнік і гэткім парадкам усё-ж такі выканаць свой грамадзянскі абавязак.

**Бацькі аб нашай працы.**

Каб не адрывацца ў сваёй працы ад сваіх бацькоў, мы практыкуем сумесныя сходы. На гэтых сходах бацькі выказваюць свае думкі аб нашым жыцьці і працы. Іх заўвагі мы ахвотна выслухоўваем.

Часта мы робім яшчэ і так: наладжваем заняткі зьвеньняў дома, па чарзе ў кожнага піонэра. Такая сумесная праца вельмі добра спрыяе ў сэнсе добрых адносін да нас з боку бацькоў. Ніякіх выпадкаў, калі-б бацька пакрыўдзіў піонэра за тое, што ён працуе ў атрадзе, ні разу ня было. Бацькі ахвотна пасылаюць сваіх дзяцей у атрад.

**Вучымся вайсковай справе.**

Чырвонаармейцы нашай сатаварыскай часьці вельмі часта наведваюць нас, а мы ў сваю чаргу ходзім да іх. Мы дапамагаем ім маляваць лёзунгі, прыбіраць казарму і інш., а яны вучаць нас, як трэба страляць, як жыве Чырвоная армія.

**Адпачынак.**

У нас праводзіўся ня досыць часта. Але ўсё, што можна было выкарыстаць для гэтае мэты, мы выкарыстоўвалі. Так, мы наладжвалі экскурсіі ў лес, катаньне на лодках, рабілі зьвеньневыя вечары з шамоўкай і рознымі забавамі, наладжвалі на зборах шахматна-шашачныя турніры.

**Вывучаем дынамо-машыну.**

Нядаўна ў нас пачаў наладжвацца гурток па вывучэньню электрычнасьці. Мы маем на мэце дакладна пазнаёміцца з работай дынамо-машыны нашага заводу. Гэты гурток пасьля выкананьня свайго першага заданьня мае перайсьці ў радыё-гурток.

Раней мы прабавалі організаваць плянэрны гурток, але з-за адсутнасьці належных інструмантаў і кіраўніка справа гэта нам не ўдалася.

Так паступова, але відавочна з кожным днём узмацняецца праца атраду, а разам з гэтым расьце і аўторытэт атраду сярод бацькоў і ўсіх партыйных і грамадзкіх організацый.

Піонэр **Л. Бандас.**

# Наш гурток фізкультуры.

У жніўні месяцы 1926 году пры нашым піонэрскім клюбе арганізаваўся гурток фізкультуры. У пачатку ён заняўся вырашэньнем арганізацыйных пытаньняў, а таксама трэба было набываць інвэнтар, без якога вельмі цяжка весьці заняткі.

Зараз мы маем шмат прыладаў для заняткаў па фізкультуры.

Побач з гэтым абсталёвана спортпляцоўка.

Праца гуртка да надыходу летняга часу праводзілася плянава, а ўлетку крыху аслабла. Тлумачылася гэта тым, што фізкультурнікі, якія лічыліся ў гуртку, улетку былі заняты на другой працы.

З студзеня месяца г. г. адбылося шмат пасяджэньняў старастату гуртка і 6 агульных сходаў, на якіх разглядаліся пераважна пытаньні арганізацыйнага характару.

За летні час праведзена некалькі дзесяткаў заняткаў гуртка і адна экскурсія на далёкую адлегласьць. Пасля заняткаў, каб выявіць свае посьпехі, ладзілася міжгуртковае спаборніцтва. Выявілася, што гурток меў куды больш дасягненьняў, чым іншыя гурткі хлапцоў і дзяўчат.

Трохі вінавата праўленьне клюбу, што ня выпісвала літаратуры з патрэбным матар'ялам па фізкультурнай працы. Да недахопаў неабходна аднесьці таксама і тое, што ў гуртку не вядуцца вайсковыя практыкаваньні. Трэба набыць больш лыжаў, а таксама абзавясьціся канькамі, якіх у гуртку зусім няма. Шмат перашкаджала нашай працы адсутнасьць залі для гімнастыкі. Праўленьне клюбу павінна ў гэты нам дапамагчы.

М. Чашнікі.

**Фізкультурнік.**



Між гор і палянак
Сыплецца сьмех.
Коцяцца санкі,
Сьцелецца сьнег.

Весела, вольна
Мчацца ў прастор!
Эх, ты, раздольле
Палянак і гор!

# „Кімаўскае жыцьцё“...

*(Г. Менск, дзіцячая камуна імя Кіма).*

Узышоўшы па вузкіх ступеньках на другі паверх, я апынуўся ў невялікім сьветлым і чыстым пакоі.

Гэта чытальня. Навокала невялікага круглага стала сядзела дзесяткі са два дзяцей і чыталі газэты. На стале ляжалі: „Зьвязда“, „Рабочий“, „Юнгер Арбэйтэр“, „Чырвоная Зьмена“, „Октябрь“ і „Юнгер Піонэр“. Патроху пачынаю знаёміцца з прысутнымі дзяцьмі. Яны мне каротка абмалёўваюць становішча і гісторыю камуны. Вось што расказала аб гісторыі камуны *Фрыдман*:

— Камуна арганізавалася ў 1924 годзе ў верасьні м-цы. У той час шмат якія дзіцячыя дамы г. Менску і другіх гарадоў былі перапоўнены дзецьмі. Вось гэта і вымусіла Цэнтральнае Бюро Ю. П. хадайнічаць перад Менскім Акрана аб адчыненьні яўрэйскай нацыянальнай дзіцячай камуны. У камуну было набрана 340 дзяцей. Цяжка было тады жыць,—кажа Фрыдман:—дзяцей было шмат, праца амаль ніякая не вялася. Часамі галадалі... Адзеньня было мала... У 1925 годзе 135 дзяцей было накіравана у Мсьціслаўскі дзіцячы дом. Каля 80 выхаванцаў былі накіраваны на працу і вучобу.

Цяпер склад камуны наступны: з 98 выхаванцаў 35 хлапцоў і 63 дзяўчат. Узрост дзяцей ад 7 да 16 гадоў. Склад дзяцей амаль не мяняецца. Зрэдка бываюць толькі перамяшчэньні з другіх дзіцячых дамоў.

Другая піонэрка старанна расказвае мне аб унутраным распарадку ў камуне.

Падымаюцца ўсе ў 7 гадзін раніцы. Да 8-мі гадзін уборка і ўмываньне. У $8^1/_4$—сьнеданьне. З 9 да 3 усе знаходзяцца ў школе. З 3-х гадзін да 4-х абед. З 4-х да 6-ці падрыхтоўка школьных лекцый. З 6 да 9 гадзін заняткі розных гурткоў. З 9 да 10 гадзін вячэра і ў 10 кладуцца спаць.



**Нешта я не ва ўсіх атрадах і школах бачу „Беларускі Піонэр“!**

### Піонэр-атрад.

На чале ўсяе камуны стаіць піонэр-атрад. Ён фактычна і зьяўляецца самакіраваньнем камуны. Уся гаспадарчая, санітарная і культурная праца разьмяркована паміж асобнымі зьвеньнямі. Усяго ў атрадзе налічваецца 66 піонэраў, з якіх 17 камсамольцаў. Уся праца атраду праводзіцца непасрэдназьвеньнямі. Увесь атрад падзелен на пяць зьвеньняў.

1) *Санітарнае зьвяно* глядзіць за чыстатой у пакоях, глядзіць за сваечасовай пераменай бялізны, глядзіць за чыстатой ложкаў.

2) *Гаспадарчае зьвяно* наглядае за гаспадарчым жыцьцём усяго інтэрнату.

3) *Прадуктавае*—выпрацоўвае расклад (мяню) для абеду, закупляе сваечасова усе прадукты. Акрамя гэтага, кожны член зьвяна дзяжурыць 2 дні ў кладоўцы з прадуктамі.

4) *Грамадзка-навучальнае зьвяно.* Усёй бібліотэкай і чытальняй камуны кіруе гэта зьвяно. Усе газэты выпісваюцца зьвяном. Чытальня адчынена з 4—9 гадзін вечару. У ёй дзяжурыць адзін з сяброў зьвяна. Бібліотэка камуны мае 300 кніг. Кнігі мяняюцца кожны тыдзень. Калі кнігі прачытваюцца, яны абменьваюцца з іншымі бібліотэкамі. Немалая праца належыць грамадзка-навучальнаму зьвяну ў справе забесьпячэньня школь-




нымі прыладамі вучняў. Час-ад-часу зьвяно правярае, як дзеці наведваюць школу і вучацца. Гэта-ж зьвяно кіруе працай гурткоў камуны, вылучае ў кожны гурток сэкратара.

5) *Пятае зьвяно* складаецца з дзяцей да 9 год. Яны маюць сваю асобную працу і заняткі. Усёй гэтай працай кіруе настаўніца, якая знаходзіцца пры камуне Яны ўсе вельмі захоплены працай у пераплётнай майстэрні. Зайшоўшы да іх у пакой, я заўважыў, як яны старанна апавядаюць сваёй настаўніцы зьмест прачытанай газэты. Аказалася, што яны добра разьбіраюцца ва ўсім жыцьці камуны і ведаюць нават, хто-такі „Чэмбэрлен“. Усе яны вучацца ў школе, а лекцыі рыхтуюць з дапамогай настаўніцы.

Зборы атраду праводзяцца 1 раз у месяц. Яны намячаюць і падагульваюць працу зьвеньняў і даюць напрамак усёй працы камуны.

Зьвяно займаецца 1 раз у тыдзень. Кожнае зьвяно па сваёй галіне намячае працу на тыдзень.

### Гурткі.

Вось што расказаў мне кіраўнік аб спортзанятках гурткоў.

— Пры камуне існуюць тры гурткі: два гурткі дзяўчат і адзін гурток хлапцоў. Усяго займаецца спортам каля 50 чалавек. Дзеці цікавяцца спорт-заняткамі і дасяглі значных посьпехаў у гэтай галіне. Маецца спэцыяльны кіраўнік спортгурткамі.

Другім па значнасьці зьяўляецца швэйны гурток. Ён аб‘ядвае каля 30 дзяўчат. (Хлопцы чамусьці ня ідуць у яго). Гэтым гуртком кіруе таксама спэцыяльны кіраўнік.

Дзяўчаты надзвычайна цікавяцца гэтым гуртком.

Гурток мае сваю швэйную машыну.

Акрамя гэтага, пры камуне існуюць наступныя гурткі: літаратурны, газэтны, драматычны, харавы і пераплётны.

### Вечары.

Большасьць вечароў камуны дапасоўваюцца да сьвятаў. Вечары організуюцца грамадзка-навучальным зьвяном.

### Даёш кіно!..

— Наконт кіно,—кажуць дзеці,—дык у нас справа добра. Кожны тыдзень па нядзелях ходзім колектыўна ў кіно „Пролетары“.

### У спальных пакоях чыста...

Далей пападаем у спальныя пакоі. Усе ложкі чысьценькія, пакрыты белымі простынямі, хоць ня новымі, але чыстымі.

— У нас чыста,—кажуць дзеці, — за гэтым-жа наглядае санітарнае зьвяно. Кожны мае свой парашок для зубоў, мыла і рушнік.

### Як з адзежай?

Мяне вельмі цікавіла пытаньне: як стаіць справа з адзежай? Дзеці растлумачылі мне, што адзін раз у год шыецца ўсім новае адзеньне. Адзеньнем дзеці забясьпечаны добра.

— Голымі хадзіць ня прыходзіцца,— кажуць яны.

Так жыве адна з дзіцячых нацыянальных камун БССР імя „Кіма“.

**А. Кучар.**




# У НАС БЫЛА ДЭЛЕГАЦЫЯ ЭСПЭРАНТЫСТЫХ.

18/IX у Менск прыехала інтэрнацыянальная дэлегацыя эспэрантыстых у складзе 4 чалавек.

Дэлегацыя складаецца з наступных таварышоў:

Тав. Адамсон — рэдактар швэдзкай комуністычнай газэты моладзі „Вэст-Свенска Курырэн“, член ЦК швэдзкай компартыі.

Тав. Адамсон зьяўляецца старшынёю швэдзкага саюзу эспэрантыстых.



*Тав. Адамсон.*

Тав. Бэсьлер—кіраўнік чырвоных франтавікоў Нямеччыны, член Цэнтральнага Камітэту Заходня-Саксонскай комуністычнай партыі, організатар эспэрантыскага адзінага фронту.

Тав. Гэмпэль—старшыня саюзу эспэрантыстых у Нямеччыне.

Тав. Лехнэр—выдатны нямецкі эспэрантысты.

## Дэлегацыя вітае.

Знаходзячыся ў Менску, ад імя нашай дэлегацыі перадаю Вам, піонэрам Беларусі, шчырае прывітаньне.

Няхай жывуць піонэры ўсёй зямной кулі!

Няхай жыве эспэранто.

**Адамсон.**

---

Я вельмі рад убачыць у Менску юных эспэрантыстых.

Піонэры! вучэце эспэранто як сродак дзеля сувязі з піонэрамі ўсяе зямное кулі.

Няхай жыве „Sat“ „cam“.

**Лехнэр.**

## Інтэрнацыянальны вечар.

А 9 гадзіне ўвечары ў клюбе „КІМ“ адбыўся інтэрнацыянальны вечар, на якім выступалі нашы дэлегаты. Увесь вечар быў на мове эспэранто.

Тав. Адамсон гаворыць, што фундамантам комуністычнай партыі ў Швэцыі зьяўляецца маладняк.

Тав. **Гэмпэль.**

## Дэлегацыя аб СССР.

Калі мы прыехалі ў СССР, дык мы ня верылі сваім вачом. Мы ўбачылі ўсюды як узмацняецца і будуецца адзіная у сьвеце рэспубліка рабочых і сялян.

— У нас у Нямеччыне,—гаворыць т. Бэсьлер,—у школах вучаць закон божы, вучні баяцца настаўнікаў, як агню. Над дзяцьмі рабочых сьмяюцца, іх б‘юць.

Няхай жыве Савецкая ўлада, якая дае магчымасьць усім дзецям вучыцца.

Старшыня дэлегацыі т. **Бэсьлер.**

# Ліст да дзяцей рабочых Беларусі.

*(Атрыман на мове эспэранто).*

Мы атрымалі ад вас ужо шмат лістоў, у якіх вы апісваеце ваша жыцьцё і працу ў піонэратрадах. Усё, што вы пішаце, так цікава для нас, што мы чытаем лісты па некалькі разоў.

Мы тутака, у Фінляндыі, знаходзімся яшчэ пад уладай буржуазіі, і нам нават цяжка ўявіць сабе, якое жыцьцё павінна быць у такой краіне, дзе рабочыя самі сабе ўладары.

Ужо 10 год у вас рабочая ўлада, і мы, дзеці фінляндзкіх рабочых, добра разумеем значэньне гэтага. Мы чыталі ў вашых газэтах і часопісах, чулі ад бацькоў, што ў вас сама дзяржава дапамагае дзіцячаму руху. Калі гэта праўда, нашы далёкія таварышы, дык, значыцца, вы жывяце ў значна лепшых умовах. У нашай краіне нам не дапамагаюць. Наадварот, саджаюць у турмы тых, хто хоча дапамагчы, як гэта было ў гарадох Таммісвары і Гэменліне. Такое ўжо жыцьцё ў нашай белай Фінляндыі. У нашай краіне соцыял-дэмократычны ўрад, які называе сам сябе „рабочым урадам", але на нашы справы не дае ні капейкі, у той час, як на ўзбраеньне буржуазнай гвардыі, той гвардыі, якая ў 1918 г. забіла ў Фінляндыі 30.000 рабочых,—грошай не шкадуюць.

За гэтыя 10 год у вас многа зроблена для палепшаньня становішча рабочых і для пабудовы соцыялізму. Мы ведаем гэта. Дзеля гэтага мы шлем вам гарачае прывітаньне і пажаданьне яшчэ болей узмацніцца, каб хутчэй ва ўсім сьвеце рабочыя аб'ядналіся пад чырвоным сьцягам для пабудовы новага жыцьця.

**Пролетарскія дзеці Фінляндыі.**



Нямецкія рабочыя дэлегаткі, якія нядаўна наведалі наш Саюз і спыняліся таксама і ў Менску.

# Прырода—навука—тэхніка.

## ЦІКАВЫЯ АЎТОМАТЫ.

Шмат яшчэ знойдзецца людзей, якія будуць дзівіцца, убачыўшы, напр., аўтоматычнўю краму (будку), якая сама, без чалавека, прадае некаторыя рэчы (напр., шакаляду). Для гэтага трэба толькі апусьціць у шчыліну патрэбную монэту. Ёсьць ужо аўтоматы, якія такім чынам чысьцяць боты. Нядаўна зроблен аўтомат, які сам здымае і выдае фотографічныя карткі.

А што-б мы сказалі, калі-б убачылі штучнае дрэва са срэбным лісьцём і залатымі птушкамі, якія соладка пяюць пад шэлест лісьця? Наша зьдзіўленьне павялічыцца ў сто разоў, калі мы даведаемся, што такое дрэва стаяла ў палацы каліфаў (цароў) Багдадзкіх (у Азіі)... 1.200 гадоў назад!

А за 500 гадоў да нас, у Эўропе было ўжо шмат гадзіньнікаў, дзе і зязюлі кукавалі, і званар біў у звон, і пастухі гралі ў дудку, і сабакі брахалі, і людзі выходзілі і казалі розныя словы, і г. д., і г. д.

Асабліва праславіўся швайцарскі самавучка Жаке-Дроз (у XVIII ст.), які паднёс гішпанскаму каралю вялізны гадзіньнік, дзе дзейнічалі розныя людзі, і паміж іншым, пастух з авечкамі і сабакам. Тутака быў і кошык з яблыкамі. Калі кароль узяў яблыка, дык сабака ўскочыў і так забрахаў, што каралеўскі сапраўдны сабака кінуўся на яго—і пачалася грызьня, а прысутныя тут людзі паўцякалі хто куды.

Потым нехта Ваказон—таксама самавучка—зрабіў качку, якая сама хадзіла, крычала акурат як сапраўдная. Яна піла, ела і нават ежаператраўлівалася (хэмічным спосабам) і выходзіла сапраўдным памётам. Тыя, хто бачылі яе, не хацелі даваць веры, што яна штучная, і пераконваліся толькі тады, калі майстар адчыняў яе і паказваў мэханізм.

Яшчэ цікавай была дзяўчынка, якая пісала, мачала, калі трэба было, пяро ў атрамант, атрасала лішні атрамант і сачыла вачыма за пісаньнем. Але больш за ўсіх праславіўся аўтомат-шахматыст, зроблены Кэмпеленам. Гэты аўтомат гуляў у шахматы так, як кожны чалавек, толькі лепш за ўсіх. На тысячу партый ён прайграваў толькі адну-дзьве. Увесь сьвет ня мог надзівіцца гэтаму цуду. Аб ім пісаліся цэлыя кнігі. Ніхто ня мог паверыць, што аўтомат сам можа так гуляць, усе казалі, што ў сярэдзіне павінен быць чалавек. Але майстар адчыняў дзьверцы аўтомата і паказваў мэханізм. Ніякага чалавека ніхто ня бачыў.





Дзяўчынка-аўтомат, якая сама пісала...

Аўтомат „працаваў“ шмат гадоў, зьмяніў двух гаспадароў і толькі пасьля сьмерці апошняга ў Амэрыцы быў заарыштаваны. Тады толькі пазналі, што ў ім было.

Каля гэтага самага часу па Эўропе езьдзіў другі аўтомат, такі самы, як і першы. Таксама зьдзівіў ён самых вучоных людзей, быў і ў Пецярбурзе.

У 1809 годзе з ім сеў гуляць Наполеон, але калі ўбачыў, што прайграе, дык разлаваўся і параскідаў фігуры.

Ці можам мы дапусьціць, што аўтомат можа думаць? Зразумела, не. І сакрэт быў

у тым, што там сапраўды сядзеў чалавек. А паказвалі сярэдзіну такім чынам: спачатку адчынялі адну палову (тады чалавек перабіраўся ў другую) а потым—другую (тады чалавек залазіў у першую).

Цяжкая была праца таго чалавека, што там сядзеў.

Аднаго разу нехта з публікі, каб праверыць справу, крыкнуў: „пажар!“ Аўтомат „спалохаўся“, але гаспадар хутка выкаціў яго ў другі пакой, а публіка сярод сполаху нічога не заўважыла. Другі раз чалавек у сярэдзіне чхнуў! Але гаспадар не зьбянтэжыўся, абвясьціў, што спружына лопнула, і спыніў гульню.

Зразумела, што найлепшаму шахматысту трэба было плаціць ня мала грошай, але гаспадар зарабляў яшчэ больш. Аднаго разу перад самым выступленьнем „аўтомат забаставаў“, і гаспадар павінен быў зараз-жа заплаціць доўг.

Ня гледзячы на гэта, мы павінны прызнаць, што зрабіць такі аўтомат было-б цяжка нават і цяпер. У далейшым падобныя апараты вырадзіліся ў больш простыя штукарскія прылады і страцілі цікавасьць.

Толькі цяпер мы чуем аб новых *сучасных* аўтоматах. Пры такіх людзі ўжо „чэсна зарабляюць сабе на хлеб“. Яны пастаўлены на вадаправоднай станцыі ў Вашынгтоне (Амэрыка) заместа жывых людзей, каб даглядаць рэзэрвуары з вадой, і робяць тое самае, што рабілі людзі.

Апрача гэтага, амэрыканскі інжынэр Вэпелей зрабіў сабе слугу, які *слухаецца голасу:* „запалі сьвет!“, „патушы гэтую лямпачку!“, „замяці падлогу!“ (праўда, тутака ён ня сам мяце, а прыводзіць у рух мэханічную мятлу), „адчыні душнік!“ і



*Гэты аўтомат гуляў у шахматы лепш за ўсіх.*

нарэшце „адчыні дзьверы!“ Гэтыя загады ён выконвае нават па тэлефону.

І электрычная фабрыка Вэстынгауз намерваецца вырабляць і пускаць у продаж цэлыя партыі падобных слуг з рознымі *пэўнымі* абавязкамі.

Вось дзе нашы будучыя рабы, якіх мы са спакойным сумленьнем зможам экплёатаваць колькі ўлезе!

Я. М.

# ЯК ПТУШКІ ЖЫВУЦЬ ЗІМОЙ.

Многія птушкі ляцяць ад нас на зіму ў цёплыя краіны, дзе шмат розных ку-



зурак, дзе ня трэба мерзнуць ад халоднай зімы. У нас застаюцца толькі тыя птушкі, якія могуць знайсьці сабе харч зімою ў нашым лесе. Птушкі, што застаюцца зімаваць у нас, зьбіраюцца цэлымі чародамі, лётаюць па лесе і адшукваюць сабе харч. Чароды бываюць часам невялікія: пяць-дзесяць птушак, а часам даходзяць да тысячы штук. У чароды птушкі зьбіраюцца для таго, каб лепш было ўсьцерагчыся ад каршуноў, соваў і іншых драпежнікаў: калі адна птушка не заўважыць, як драпежнік падкрадаецца, то другая заўважыць і трывожным ціўканьнем папярэдзіць усіх аб небясьпецы. На чале чарады заўсёды знаходзіцца павадыр, які добра ведае мясцовасьць, дзе можна знайсьці харч, дзе выбраць зацішнае месца для начоўкі. Павадыр

вядзе чараду на поўдзень, калі здараюцца часамі вялікія маразы ў нас альбо бывае недахват корму.

Зімою птушкі не сядзяць доўга на адным месцы, яны хутка пералятаюць з аднаго лесу ў другі і ўважна абглядаюць усякае дрэўца, усякі кусьцік, каб больш знайсьці сабе пажывы, каб лепш наесьціся за дзень, бо ўзімку ноч доўгая і марозная, і птушка ведае, што цяжка будзе пераначаваць ёй з галодным жыватом.

Вы прыходзіце зімою гуляць у лес. Ціха кругом, нідзе ні аднаго гуку, але раптам аднекуль зьявіліся нейкія шэранькія, маленькія птушачкі з гостранькімі загнутымі дзюбачкамі. Яны абселі кругом вялікай елкі і пачалі лушчыць з яе шышак зерняткі. Абабраўшы адну елку, яны пераляцелі на другую, а часам любяць прысесьці на рабіну, каб палушчыць там прамерзлых рабінавых ягад. Гэта клясты, яны пачынаюць лятаць і шукаць сабе харчы, як толькі пачне займацца на дзень. Увесь дзень яны пералятаюць з елкі на елку і заводзяць свой аднатонны сьпеў—цік-цік-цік аж да самага вечара, пакуль ноч не пакрые сваёю цемнатою лес і ня прымусіць іх спачываць ад дзяннное працы.



Ходзячы зімою па лесе, можна часта пачуць сьпеў птушкі, падобны на злучэньне гукаў—црррр, црррр; гэта нашая сінічка, яна нікуды ад нас зімою не лятае, яна ўвесь час лётае па лесе, зьбірае сабе зерняткі з дрэў, а калі кругом засыпле ўсё сьнегам, дык сінічка тады трымаецца каля будовы, дзе яна заўсёды можа і схавацца ад сьцюжы, і знайсьці якое-небудзь зерне.

Вышаўшы з лесу на паляну, на якой скрозь сьнег вытыркае быльнік, бур'ян, тысячалісьнік і іншая трава, можна таксама заўважыць статак чырвонагрудых шчыглоў. Яны рупліва аб'ядаюць зерняткі травы, а калі няма ўволю гэтых зернят, тады яны ядуць зерняты з дрэваў, стараюцца пажывіцца чым-небудзь каля гумнаў. Але тут ім не даюць спуску розныя „прыхільнікі“ птушак. Каб злавіць шчыгла, яны ставяць пасткі, плёнкі і розныя іншыя прылады, ад якіх шмат гіне нашых чырвонагрудых прыяцеляў.

Досыць часта ў нашых лясох зімою можна заўважыць сойку,—гэта вялікая птушка велічынёю з добрую галку, але значна прыгажэй за галку. Яна жыве ў дубовых лясох да таго часу, пакуль іх не засыпе сьнегам, а потым перабіраецца на дарогі, і там разграбае конскі гной альбо адшуквае дзе-небудзь яблыну-дзічку і жывіцца мерзлымі дзікімі яблычкамі. Зімою сойкі, таксама як і іншыя птушкі, любяць жыць не паасобку, а чародамі. У гэты галодны для птушак час сойка зьяўляецца ўсяяднаю птушкаю, яна нават можа задушыць і другую якую-небудзь маленькую птушачку, каб пажывіцца яе мясам, а восьлетам сойка гэтага бадай што ніколі ня робіць.

Зімой у лесе можна пачуць крык дзятла альбо яго стук, калі ён выклёўвае з шышак зерняткі. Ня думайце, што дзяцел корміцца зімой толькі аднымі зерняткамі,—не, ён досыць часта знаходзіць сабе кузурак, якія знаходзяцца ў гэты час пад карой дрэў. Гэтымі кузуркамі жывяцца і некаторыя іншыя птушкі.

Лабацік—гэта маленькая шэранькая птушачка, амаль зусім без хваста, з слаба чырвоным жывоцікам і з доўгаю тоненькаю дзюбкаю. Лазіць лабацік па дрэвах лепш за дзятла, ён садзіцца звычайна высока на дрэве і адтуль скача галоўкаю ўніз па дрэву, дзятлы скачуць якраз наадварот. Жаўна ў нас бывае чорная і жоўтая. Чорная жаўна ростам бывае большая за галку, а жоўтая ростам бывае значна меншая. Жаўна часам улетку і ўзімку робіць значную шкоду тым, што выцягвае пчол з вульляў. У жаўны досыць доўгі язык, яна свой язык запускае ў дзірачку вульля, пчолы садзяцца на язык і яна іх глытае. Лабацікі і дзятлы такога злачынства ніколі ня робяць, яны толькі зьнішчаюць тых кузурак, якія хаваюцца на зіму ў шчылінках кары альбо пад карою.

Інакш здабываюць сабе харч зімою цецярукі. Яны, пакуль не нападзе глыбокі сьнег, лятаюць на жытнія палі і там жыруюць жытам, а калі выпадзе глыбокі сьнег, тады яны пачынаюць карміцца пупышкамі бярозавых галінак. Зімою цецярука можна заўсёды заўважыць у бярозавых лясох. Яны часам забіраюцца на самыя верхавіны дрэў і там шчыпаюць пупышачкі. Гэтым выпадкам карыстаюцца паляўнічыя і каршуны-цецеравятнікі. Каршуны-цецеравятнікі зімою так і кружацца над бярозавымі лясамі, яны ведаюць, што цецярукі пачнуць жыраваць і некаторыя з іх вылезуць на голае месца, вось тут-та драпежнік і ня ўпусьціць моманту і абавязкова схопіць цецярука.

Ня лёгка жывецца зімою варонам і галкам. Гэтыя птушкі стараюцца трымацца недалёка ад чалавечага жыльля і кормяцца ўсякай-усячынай. Курапаткі зімою разрываюць сьнег і клююць жыта, а калі сьнег бывае вялікі і курапаткі ня змогуць яго разгрэбці, тады яны стараюцца трымацца каля тых мясцоў, дзе ёсьць зайцы. Зайцы разграбаюць сьнег на жытніх палёх для таго, каб знайсьці сабе харч, а курапаткі карыстаюцца ўжо гатовым месцам і ядуць тое, чаго ня зьелі зайцы. Бываюць зімы з вялікімі сьнягамі, так што зайцы ня могуць часам разгрэбсьці такога глыбокага сьнегу і жывяцца карою, тады курапаткам цяжка жывецца, а многія з іх паміраюць з голаду. Каб лепш захавацца ад драпежных птушак, курапаткі на зіму перакрашваюць шэры колер сваіх пер'яў на белы, такі, як сьнег, і дзякуючы гэтаму іх зімою на сьнезе вельмі цяжка заўважыць.

Драпежныя птушкі—арлы, каршуны, сакалы—увесь дзень зімою лятаюць па палёх над лесам, каб знайсьці якую-небудзь птушку альбо жывёлінку і паласавацца яе мясам. Дзень зімою невялічкі, а за такі малы дзень яны часта нічога не знаходзяць сабе паесьці, ноч-жа зімою доўгая, халодная, і вось ім прыходзіцца сядзець галоднымі ўсю ноч. Яны ад гэтага робяцца злоснымі, сьмелымі і тады не шкадуюць свайго жыцьця,—некаторыя галодныя арлы часам кідаюцца на чалавека, а каршуны і сакалы хапаюць варон і курэй нават з-пад ног у людзей.

Як ні цяжка жывецца птушкам у нас зімою, усё-ж такі шмат якія птушкі з далёкае поўначы на зімоўку ляцяць да нас, відаць, што зімою там жыцьцё птушак яшчэ цяжэйшае. На зіму к нам з поўначы прылятаюць сьнігіры, ці, інакш кажучы, кілі, таксама ляцяць да нас чачоткі, сьвірасьцелі і шмат іншых птушак. Тут яны кормяцца рабінавымі ягадамі, рознымі іншымі зернятамі і жывуць у нас да вясны, а вясной ізноў ляцяць да сябе на бацькаўшчыну.

**Я. Кіпель.**



# Як робяцца запалкі.

Доўгі час людзі здабывалі агонь з дапамогаю крэменю і мэталю, і толькі ў пачатку мінулага стагодзьдзя быў прыдуманы гэтак званы хэмічны спосаб здабываньня агню з дапамогаю запалак.

Першыя запалкі былі вынайдзены францускім вучоным *Шансэлем* у 1805 годзе. Галоўка іх выраблялася з мешаніны серкі, смолкі і бэртолетавае солі. Каб запаліць такую запалку, яе трэ' было абмакнуць у серчаны квас.

У 1883 г. немец *Камэрэр* вынайшоў фосфарныя запалкі. Галоўка іх выраблялася з мешаніны белага фосфару і смолкі. Гэтыя запалкі былі вельмі небясьпечныя з тэй прычыны, што белы фосфар лёгка загараўся сам. Апрача таго, яны



Макальная прылада, якая ўжывалася пры саматужным вырабе запалак.

былі шкодныя для здароўя рабочых, якія іх выраблялі. Пагэтаму ў некаторых дзяржавах фосфарныя запалкі былі забаронены.

Пазьней, у 60-х гадох XIX ст. швэд Лундстрэм вынайшоў запалкі, галоўка якіх зусім ня мела белага фосфару і выраблялася з мешаніны бэртолеткі, серчаку антымону і шклянога парашка. Гэтыя запалкі запальваліся пры шараваньні іх аб паперу, пакрытую асобнай мешанінай, у склад якой уваходзіў чырвоны фосфар, няшкодны для здароўя, і сярчак антымону з клеем. Запалкі Лундстрэма атрымалі назву „швэдзкіх" і ўжываюцца цяпер ва ўсім сьвеце.

Спачатку запалкі выробляліся саматужным спосабам, але цяпер выраб іх вытвараецца спэцыяльнымі машынамі.

Вось гэты машынны спосаб мы і апішам ніжэй.

Увесь процэс вырабу запалак можна падзяліць на тры часткі: 1) выраб драўляных палачак ці г. з. сярніковае саломкі; 2) падрыхтоўка гаручае масы; 3) выраб скрынак для запалак, пакаваньне іх і г. д.

У сярніковай прамысловасьці ўжываюцца мягкія пароды дрэва: асіна, таполя, хвойка і інш. Для вырабу саломкі, бервяно расьпіловаецца на кавалкі даўжынёю 40—60 сантымэтраў і з іх здымаецца кара. Потым гэтыя кавалкі ідуць у асобныя істружкастругальныя машыны, дзе яны замацоўваюцца паміж цэнтрамі машыны і пачынаюць круціцца навокал свае восі. Перад апрацоўваемым кавалкам дрэва зьмяшчаецца шырокі востры нож, які састругвае тонкую стружку даўжынёю ў некалькі дзесяткаў мэтраў. Таўшчыня і шырыня гэтае стружкі, дзякуючы асобным прыладам, можа зьмяняцца па вырабу. Звычайна, для сярніковае саломкі таўшчыня стружкі такая-ж, як і таўшчыня запалкі.

Атрыманая такім чынам стружка ломіцца рабочымі на кавалкі даўжынёю ў 2—3 мэтры і складаецца кучкамі па 70—100 кавалкаў у кожнай. Гэтыя кучкі ідуць у істужкарэзальную машыну, якая рэжа сярніковую саломку. Галоўнай часткай гэтае машыны зьяўляецца нож, гэтак званы разак, на якім мюцца папярочныя выступы на адлегласьці даўжыні аднэй запалкі. Гэты разак рухаецца ўверх і ўніз і адразае за адзін раз досыць шмат запалак. Пры кожным апусканьні разака стружка аўтоматычна пасоўваецца ўперад на шырыню аднэй запалкі. За адну гадзіну на гэтай машыне можна нарэзаць каля $3^1/_2$ мільёнаў запалак.

Нарэзаная на машыне саломка сушыцца ў спэцыяльных сушыльных печах. Калі-ж хочуць афарбаваць саломку ў які-небудзь колер, то раней апускаюць яе ў бак з фарбай, а потым ужо сушаць у печы.

Пасьля сушкі саломка паступае ў саломатрас (сіта, якое калышыцца), дзе яна абчышчаецца ад сьмецьця. Пасьля гэтага гатовая саломка пераносіцца ў асобную машыну, якая ўстаўляе саломку ў наборныя рамы, прычым кожная па-

лачка зьмяшчаецца ў раме зусім паасобку ад другіх. Напоўненыя саломкай рамы паступаюць у макальнае аддзяленьне, дзе яны абмочваюцца спачатку ў парафіну (што робіцца для таго, каб запалкі гарэлі роўнамерна і ня гасьлі адразу), а потым у расплаўленую запалкавую масу. Каб галоўкі зацьвярдзелі, рамы разам з запалкамі пераносяцца ізноў у сушыльнае аддзяленьне.

Запалкі гатовы. З дапамогаю машын яны вымаюцца з рам і пераносяцца ў склад.

Скрыначкі для запалак робяцца таксама з дрэва. Для гэтай мэты істужкастругальныя машыны рэжуць тонкую стружку таўшчынёю каля 0,7 мм. Гэта стружка разразаецца на істужкі, шырыня якіх робіцца такая, якой даўжыні будуць скрыначкі. Спэцыяльныя машыны робяць з гэтых істужак скрынкі і аклейваюць іх паперай. Скрынкі высушваюцца і разам з запалкамі падаюцца ў пакавальную машыну, якая аўтаматычна напаўняе кожную скрынку запалкамі. За адну гадзіну машына можа напоўніць да 6.000 скрыначак.

Нарэшце, скрыначкі з запалкамі трапляюць у машыну, якая пакрывае канты скрыначак мешанінаю чырвонага фосфару, тоўчанага шкла і серчака антымону.

Пасьля гэтага скрыначкі ізноў сушацца, а потым пакуюцца ў пачкі, па 10 штук у кожнай, і перадаюцца на склад, адкуль яны паступаюць у продаж.

У дрэваапрацоучай прамысловасьці нашае Рэспублікі выраб запалак займае досьць вялікае месца. Запалкі, вырабу нашых буйных фабрык—„Чырвоная Бярэзіна“ (Нова-Барысаў) і „Вэзуві“ (Гом. акр.), распаўсюджваюцца ня толькі ў Беларусі і ў нашым Саюзе, але нават і ў некаторых замежных краінах.

**В. С.**

# Добры звычай.

У нейкай дзяржаве быў гэткі звычай: кожны злачынец, асуджаны на сьмерць, цягнуў перад караю жэрабі, які даваў яму надзею на выратаваньне. У скрыню клалі дзьве паперкі: адну з надпісам *„Жыцьцё“*, другую з надпісам *„Сьмерць“*. Калі асуджаны выцягваў першую паперку, яму даравалі віну; калі-ж ён меў няшчасьце выцягнуць паперку з надпісам *„Сьмерць“*,—прысуд выконваўся.

У аднаго чалавека, што жыў у гэтай краіне, былі ворагі, якія ўзьвялі на яго паклёп і дамагліся таго, што суд засудзіў нешчасьліўца на пакараньне сьмерцю. Але і гэта ня ўсё. Каб пазбавіць асуджанага апошняе магчымасьці выратавацца, яны ўначы выкралі са скрыні паперку з надпісам *„Жыцьцё“* і паклалі паперку з надпісам *„Сьмерць“*. Цяпер у скрыні было ўжо дзьве паперкі з надпісам *„Сьмерць“*, і якую-б ні выцягнуў асуджаны, яму ўсё роўна не ўдалося-б унікнуць кары. Так думалі ворагі.

Але ў асуджанага былі і прыяцелі, якія даведаліся пра махінацыі ворагаў і папярэдзілі яго. Прыяцелі падмаўлялі асуджанага перад судзьдзямі выкрыць машэнствы ворагаў і патрабаваць агляду скрыні і паперак.

Але, на зьдзіўленьне прыяцеляў, асуджаны прасіў іх нікому не казаць пра ўчынак ворагаў і пераконваў, што тады ён будзе выратаваны. Прыяцелі палічылі яго за вар'ята...

Раніцою асуджаны, нічога не сказаўшы судзьдзям пра ўчынак ворагаў, цягнуў жэрабі і—быў выпушчаны на волю!

Як-жа яму ўдалося выйсьці з гэтага, здаецца, безнадзейнага становішча?

*Адказ.* Вымаючы жэрабі, асуджаны зрабіў гэтак: ён узяў адну паперку і, нікому не паказваючы, праглынуў яе. Судзьдзі, жадаючы ўстанавіць, што было напісана на зьнішчанай паперцы, павінны былі дастаць са скрыні другую паперку, а на ёй было напісана: *„Сьмерць“*. Значыць, — разважалі судзьдзі, — на зьнішчанай паперцы было напісана *„Жыцьцё“* (бо яны-ж нічога ня ведалі пра змову). Рыхтуючы бяз віны асуджанаму верную пагібель, ворагі мімаволі дапамаглі яму выратавацца.

Выняўшы з квасу, мяздру (тлустыя часьціны) скурак абчышчаюць старой касой ці нажом ад мяса, сала і абразаюць хвост і вушы. Потым скуркі выцягваюць, націраюць рукою якой небудзь тлустасьцю, хаця-б рыбінай, але ня густа, і вешаюць для прасушкі ля печы, аднак, ня вельмі гарачай. Падсушаныя скуркі загортваюць у вільготны „мяшок“ „трубкай“ гадзіны на дзьве, пакуль скурка не зьвільгацее, потым іх разгортваюць і пачыняюць мяць усялякімі спосабамі. Можна нават іх таптаць нагамі. Скончыўшы гэта, трэба пацерці іх яшчэ мяздрою аб жалезную дужку, такую, напрыклад, якую забіваюць у браму, потым разразаюць вострым нажом спачатку ножкі, а пасьля і ўсю „панчоху“. Для гэтага ўсаджваюць левую руку ў сярэдзіну скуркі, як у рукавіцу, а правай праводзяць па мяздры лёгка нажом.



Вось як трэба зьнімаць скурку „панчохай“.

Калі брушка скуркі іншага колеру, чым уся скурка, як, напрыклад, у белкі, то разрэз робяць і ў бок, а потым, расправіўшы скурку, выразаюць зусім брушка.

Пасьля гэтага, узяўшы скурку абедзьвюма рукамі, выцягваюць яе ў даўжыню, дзякуючы чаму скурка робіцца больш прыгожай, потым яе расьпяльваюць на дошцы шэрсьцю ўніз, прыбіваюць за ножкі, галаву і бакі невялікімі цьвікамі для канчатковае прасушкі.



Сушыць скуркі для шапкі можна, расьпяльваючы на дошцы.

Прасушаная скурка выбіваецца палкай па мяздры, устрахаецца і ўжо можа быць скарыстана па жаданьню. Яна будзе мяккай, ваўністай і прыгожай.

---

Цана 12 к.




## 1. Відучы.

— Тамаш! Вунь гусі ляцяць.
— Ой-ё-ей! Ды як-жа іх шмат...
— Ці-ж ты бачыш?
— А ты-ж кажаш...

## 2. Напаіў.

— Напаіў каня?
— Напаіў.
— А чаму-ж у яго мыза сухая?
— Ды вады не дастаў мызаю.

## 3. Холадна.

Сядзіць голы цыганчук
Ды аж ледзь ня плача.
— Тата,—кажа,—холадна!
Зуб над зубам скача!
А той яму—паясок:
— Ды на! Ня журыся!
Калі табе холадна,
Дык падпяражыся.

## 4. Навіны слухаў.

Пытала матка сына:
— Дзе гэта ты быў так доўга?
— Ды вось на рынку быў, навіны расказвалі, дык я слухаў.
Матка зноў пытае:
— А што-ж за навіны ты там чуў?
— Дый хіба-ж за народам дастýпішся! Далёка стаяў, дык нічога і чуваць ня было.

## 5. Старыя і новыя боты.

Піша бацьку сын са службы
Ліст такі журботны:
„Прышлі ты, мой татуленька,
Новыя мне боты“.
Бацька шчыра спачувае.
Стаў сабе гадаць ён,
Як-бы гэта тыя боты
Найхутчэй паслаці?
„Пашлю, хіба, тэлеграфам,—
Стары разважае,—
Так, напэўна, вельмі хутка
Сын іх атрымае“.
Пайшоў бацька дый у поле,
Драціну сьцягае,
І на яе сыну боты
Паслаць надзявае.
Палажыў-жа у халяве
Ён шчэ' й словы тыя:
„Як абуеш іх, мой сынку,
Дык прышлі старыя“.
А паслаўшы, стары радым
Сеў адпачываці:
„Буду,—кажа,—тэлеграфам
Я старых чакаці“.
Заснуў трохі. А ля яго
Ідзе падарожнік,
У парваных ён апорках,
Відаць—незаможны.
Бачыць, вісяць сабе боты,
Рад ім падарожнік:
„Вось-жа шчасьце—дый новыя!
Гэткія прыгожыя!“
Скінуў ён свае апоркі,
Новыя зьнімае,
Зьняў, агледзеў, ці па мерцы,
Сеў і абувае.
Абуў сабе й марш адгэтуль!
Тут стары прачнуўся.
Угару на дрот зірнуў ён,
Дый аж усьміхнуўся:
Там старыя ён апоркі
Згледзеў,—як ня дзіва!—
„Вось-жа,—кажа,—гэтак хутка
Яны прыкацілі!“

## РЭБУС.



1-ая дзяржаўная друкарня. Заказ № 557. У ліку 2.900 экз. Галоўлітбел № 76.